www.nv-online.info

*На простор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

# Народная Воля

№ 76 (4225)

26 верасня 2017 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ВІЗІТ



## Брытанскі міністр наведвае Беларусь

*Сёння, 26 верасня, другі дзень візіту ў Беларусь брытанскага міністра па справах Еўропы і Амерыкі сэра **Алана Дункана**.*

*Яго візіт прымеркаваны да 25-годдзя ўсталявання дыпламатычных адносін паміж краінамі.*

“Візіт міністра дазволіць умацаваць адносіны паміж Вялікабрытаніяй і Беларуссю і зразумець, як сумесныя намаганні двух краін могуць спрыяць падтрыманню бяспекі і панікенню напружанасці ў рэгіёне, – *каментуюць візіт міністра ў амбасадзе Вялікабрытаніі ў Мінску*. – У Беларусі праходзяць сустрэчы на Мінскім працэсе для падтрымання перамір'я паміж Украінай і Расіяй. Візіт міністра таксама накіраваны на ўмацаванне эканамічнага развіцця і росквіту праз далейшую дэмакратызацыю і павышэнне якасці дзяржаўнага кіравання.

Вялікабрытанія – трэці па велічыні рынак для беларускага экспарту. Самымі галоўнымі таварамі, якія Беларусь экспартуе ў Вялікабрытанію, з'яўляюцца нафта і нафтапрадукты. Вялікабрытанія пастаўляе ў Беларусь абсталяванне і напоі”.

Перад візітам сэр Алан Дункан заявіў: «*Як першы міністр, які наведвае Беларусь з моманту атрымання ёю незалежнасці, я спадзяюся на далейшае ўмацаванне нашых адносін і перадаю найлепшыя пажаданні народу Беларусі.*

*Беларусь знаходзіцца ў геаграфічным сэрцы Еўропы і адыгрывае важную ролю як у рэгіянальным, так і ў больш шырокім кантэксце. Я спадзяюся на плённую сустрэчу з прэзідэнтам Лукашэнкам і міністрам замежных спраў Макеем.*

*Мы таксама абмяркуем рэформы, якія адбываюцца ў сферы эканомікі, судовай сістэмы і выбарчага права, якія будуць спрыяць умацаванню дабрабыту і дэмакратыі ў Беларусі.*

*Я шчыра спадзяюся, што гэты візіт пракладзе шлях да глыбейшых і больш эфектыўных адносін у будучыні, якія будуць грунтавацца на ўзаемнай павазе і разуменні*».

АФІЦЫЙНА

## Кіраўнік Чачэнскай Рэспублікі Расійскай Федэрацыі Рамзан Кадыраў падкрэсліў цікавасць да развіцця супрацоўніцтва з Беларуссю



Пра гэта ён заявіў учора на сустрэчы з Аляксандрам Лукашэнкам.

“Я, можна сказаць, марыў пра асабістую сустрэчу з вамі. Бо ўсе гэтыя гады, як вы толькі што сказалі, мы адчувалі і адчуваем падтрымку. На Каўказе вас вельмі моцна паважаюць, любяць за вашу адназначную пазіцыю. За тое, што вы будуеце дзяржаву, абараняеце інтарэсы свайго народа на вышэйшым узроўні. Нам не абыякавая ваша краіна. І нашы краіны даўно звязваюць сяброўскія братэрскія адносіны», – сказаў Рамзан Кадыраў.

«У рэспубліцы як даведаліся, што я еду, усе – маладыя, старыя: «Бацьку вялікае прывітанне перадайце! Мы заўсёды адчуваем падтрымку, усе ягоныя выступленні слухаем». Таму я перадаю вам прывітанне ад нашых грамадзян – моладзі, старэйшын. Яны вельмі вас любяць і паважаюць», – сказаў Рамзан Кадыраў.

Лукашэнка сказаў, што рады сустрэчы з кіраўніком Чачні, што мае цёплыя пачуцці да Каўказа і даўно хацеў там пабываць.

«Дзякуй Богу, што даехалі, – сказаў Лукашэнка. – Спадзёмся, што Беларусь не чужая для вас зямля. Вельмі рады пазнаёміцца бліжэй, не завочна. Думаю, што вам спадабаецца ў Беларусі», – сказаў беларускі лідар і запрасіў Кадырава наведаць краіну не толькі ў рамках афіцыйнага візіту.

Пры гэтым ён падкрэсліў, што Беларусь ва ўсе часы была гасцінным домам для шматлікіх савецкіх народаў. Паводле слоў Лукашэнкі, гасціннасць з'яўляецца візітнай карткай Беларусі.

Ён адзначыў, што ў Беларусі пражывае шмат чачэнцаў. «У нас ніколі не было праблем. Гэта ўжо нашы чачэнцы», – сказаў кіраўнік дзяржавы і ўспомніў сітуацыю, калі польскі бок адмовіўся прыняць чачэнскіх мігрантаў і ім давялося нейкі час затрымацца ў Беларусі.

Паводле слоў прэзідэнта, беларускі бок аказаў дапамогу чачэнскім грамадзянам. І ўспомніў пра тое, што некаторыя чачэнскія сям'і тады назвалі нованароджаных хлопчыкаў Аляксандрамі.

ТЫМ ЧАСАМ

40-гадовага Кадырава абвінавачваюць у карупцыі, масавых парушэннях правоў чалавека, забойствах палітычных апанентаў і нават асабістым удзеле ў катаваннях людзей. Праваабаронцы сцвярджаюць, што ён фактычна пабудаваў у межах Чачні таталітарную дзяржаву.

ГАЗЕТА – ЧЫТАЧЫ

## Каб пасля 1 кастрычніка нас стала болей

Ведаем, у даўнішніх прыхільнікаў “Народнай Волі” падпіска на газету афармлена да канца года. А вось каб чытацкая аўдыторыя пашыралася, парайм зайсці сёння ў паштовыя аддзяленні ці ў спецыялізаваныя пункты “Белсаюздруку” тым, для каго “Народная Воля” таксама можа стаць любімым выданнем.

26 верасня – апошні дзень падпіскі на газету “Народная Воля” на IV квартал 2017 года. Не спазніцеся! І ужо 1 кастрычніка яна стане лепшым вашым сябрам.

**Вы – з “Народнай Воляй”, “Народная Воля” – з Вамі!**

СКАЗАНО!



Владимир МАКЕЙ,
министр иностранных дел Республики Беларусь:

*– Мы предлагаем, чтобы ключевые глобальные игроки, прежде всего Китай, Россия, США, государства Европейского Союза, начали диалог о стратегическом видении новых конструктивных отношений. Беларусь со своей стороны готова предоставить площадку для процесса. Мы готовы выполнить эту задачу так же ответственно, как Беларусь это делает на протяжении последних лет в рамках усилий по урегулированию кризиса в Украине. Минск готов стать мостом, связывающим старое с еще не родившимся.*

(Из выступления на сессии Генеральной Ассамблеи ООН.)

ГУЧНАЯ СПРАВА

## Міраслаў ЛАЗОЎСКІ: «Пакуль зацішша...»

*Следчы камітэт працягнуў тэрмін расследавання па “справе патрыётаў”. Адзін з яе фігурантаў распавёў “Народнай Волі” пра тое, ці ёсць зрухі ў расследаванні.*



Нагадаем: затрыманні пачаліся пасля заявы Аляксандра Лукашэнкі 21 сакавіка гэтага года, што ў Беларусі “*затрымалі дзясяткі баевікоў*”, якія “*трэніраваліся ў лагерах са зброяй*”. Цягам некалькіх дзён стала вядома пра 35 затрыманых. Спачатку паведамлялася, што справа вядзецца аб “падрыхтоўцы масавых беспарадкаў” (ч.3 арт.293 КК), пазней з'явілася абвінавачанне ў “стварэнні незаконнага ўзброенага фарміравання і ўдзеле ў ім” (арт.287 КК).

У чэрвені справа была перададзена ў Следчы камітэт Рэспублікі Беларусь. Фігуранты справы выпусцілі на волю, 30 чэрвеня з ізалятара выйшаў апошні зняволены – колішні кіраўнік “Белага легіёна” **Міраслаў ЛАЗОЎСКІ.**

– Гэта прадказальна, што тэрмін расследавання працягнуты, – кажа ён. – Цалкам верагодна, што справа ўвогуле можа “завіснуць” на нявызначаны тэрмін, хаця нешта дакладна прагназаваць досыць складана. Асабіста мяне следчыя зараз не выклікаюць, няма ніякай інфармацыі. Калі ідзе нейкі працэс, то можна нешта прагназаваць, але ж у нашым выпадку – зацішша.

**– З аднаго боку, зацішша, а з іншага – крымінальная справа нікуды ж не знікла...**

– Безумоўна, заставацца “пад следствам” увесь час не вельмі прыемна, але, на мой погляд, “хуткі варыянт” развіцця падзей меў бы для нас больш негатыўныя наступствы.

**– Не так даўно вашага адваката Ганну Бахціну пазбавілі ліцэнзіі. Хто вас зараз абараняе?**

– Пакуль я застаюся без адваката. І знайсці новага з улікам той сітуацыі, што склалася з Бахцінай, як разумееце, не так проста. Сітуацыя з ёй наогул выглядае дзіўнай, бо пазбавілі ліцэнзіі чалавека, у якога каля 40 гадоў юрыдычнага стажу. Мінуст кажа, што, маўляў, у яе недастатковая кваліфікацыя, нейкія там памылкі дапускала... Смех! Я адно магу сказаць: Ганна Віктараўна – гэта прафесіянал з вялікай літары. Таму можна толькі выказваць версіі і здагадкі, адкуль вушы растуць на ўсёй гэтай гісторыі. Бахціна ж не першы раз удзельнічае ў справах з палітычным адценнем.

**– А як вы можаце пракаментаваць той факт, што заменена следчая група па «справе патрыётаў»?**

– Я ведаю, што два былыя начальнікі гэтай групы звольніліся з органаў. Быццам бы пайшлі на пенсію. Тут цікавыя супадзенні. Спачатку Бахціну пазбаўляюць ліцэнзіі, затым раптам трапляюць пад “аптымізацыю” два кіраўнікі следчай групы, якая займалася справай “Белага легіёна”. З аднаго боку, паміж усім гэтым няма ніякай сувязі. А з іншага – тут ужо ўзнікаюць нагоды для розных думак. Час пакажа, ці было гэта простым супадзеннем...

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ЖЫЦЦЁ ЯК ЯНО ЁСЦЬ

## У паліклініках Гомельскай вобласці пацыенты чакаюць прыёму ва ўрача да трох тыдняў

*А чэргі на абследаванне – да трох месяцаў.*

Камітэт дзяржаўнага кантролю Гомельскай вобласці правёў комплексную праверку якасці і даступнасці медыцынскай дапамогі ва ўстановах аховы здароўя Гомеля, Добруша, Мазыра і Светлагорска.

Паводле яе вынікаў, кантралёры прыйшлі да высновы, што «*існая арганізацыя працы паліклінік рэгіёна не забяспечвала ў поўнай меры права грамадзян на даступнае медыцынскае абслугоўванне, што выклікала абгрунтаваныя скаргі насельніцтва, пры гэтым наяўныя рэзервы для павышэння эфектыўнасці такой працы не былі задзейнічаны*».

Як паведамляе КДК Гомельскай вобласці, усе правераныя ўстановы не былі ў дастатковай ступені ўкамплектаваны вузкімі спецыялістамі і ўчастковымі тэрапеўтамі, як следства – грамадзяне не мелі магчымасці трапіць на прыём да ўрача ў дзень звароту. Час чакання прыёму ва ўрача ў асобных выпадках даходзіў да трох тыдняў!

Яшчэ больш абмяжоўвала своечасовасць меддапамогі практыка запісу да ўрача-спецыяліста толькі паводле накіравання тэрапеўта, у выніку чаго пацыенты вымушаны былі звяртацца ў паліклініку па некалькі разоў і чакаць прыёму ўрача да двух тыдняў.

Устаноўлены шматлікія факты нерацыянальнага выкарыстання медыцынскага абсталявання і нераўнамернай яго загрузкі, што правакавала наяўнасць значных чэргаў (ад двух тыдняў да трох месяцаў) у адных структурных падраздзяленнях паліклінік пры іх адсутнасці ў іншых.

У сувязі з незабеспячэннем паліклінічнымі ўстановамі Гомеля рацыянальнага выкарыстання лабараторнага абсталявання была знiжана даступнасць правядзення біяхімічных даследаванняў (аналізаў) і даследаванняў гармонаў шчытападобнай залозы. У сярэднім чарга на аналізы складала ад двух да чатырох тыдняў.

ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ

## Навошта футбаліст закапаў у лесе долары?

*Учора ў судзе Першамайскага раёна Мінска пачаўся разгляд справы аб дамоўных матчах, якія былі выяўлены ў беларускім футболе ў мінулым годзе.*

Былы футбаліст Юрый Сыраквашка, напрыклад, распавёў, што асабіста ён атрымаў ад “арганізатара” за неабходны вынік 2 тысячы долараў. Але затым... згубіў “зялёныя”:

«Па дарозе дадому на аўтамабілі ўбачыў, што затрымліваюць футбалістаў «Ашмянаў». Запанікаваў, разумеючы, што ў мяне на руках грошы. Іх у выніку закапаў у лесе. Чаму падчас следчых мерапрыемстваў пра іх не ўспамінаў? Забыўся. Не думаў тады пра нейкія грошы, пра нейкія выгоды. Нават не памятаю ні месца, ні кіламетр, дзе пакінуў гэтую суму».

Усяго ў справе фігуруюць больш за 20 чалавек, у спісе абвінавачаных – пятнаццаць.

Размова ідзе пра пяць дамоўленых матчаў.

**Сяргей НІКАНОРАЎ.**

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

## Беларускія вучоныя заслугоўваюць Нобелеўскай прэміі

*Атрымаць прэстыжную прэмію беларускім навукоўцам перашкаджае толькі сціпласць. Такое меркаванне днямі выказаў старшыня прэзідыума Нацыянальнай акадэміі навук **Уладзімір Гусакоў**.*

“*Чаму да гэтага часу ў Акадэміі навук не было нобелеўскіх лаўрэатаў, дык гэта з-за сціпласці беларусаў, а не таму, што ў нас няма работ аналагічных і раўназначных*, – упэўнены Гусакоў, цытату якога перадае БелаПАН. – *Калі мы аналізуем працы, якія прайшлі, то бачым, што ў нас ёсць значна лепшыя і мацнейшыя*”.

Як падкрэсліў Гусакоў, беларусы ганарацца тым, што лаўрэатам Нобелеўскай прэміі па фізіцы ў 2000 годзе стаў іх суайчыннік – ураджэнец Чашнікаў Віцебскай вобласці **Жарэс Алфёраў**, але «*трэба, каб было больш беларусаў – лаўрэатаў прэміі*».

“*Таму цяпер мы ставім задачу – адкінуць лішнюю сціпласць і ўдзельнічаць нароўні з прэтэндэнтамі з іншых краін. Па распрацоўках беларускія навукоўцы не саступаюць замежным... Трэба фарміраваць дакументы і заяўляць пра сябе ў поўны голас. Там цэлая працэдура, па якой трэба заручыцца падтрымкай розных супольнасцяў. Працэсі ўсе этапы вельмі складана, але гэта трэба рабіць*”, – падсумаваў кіраўнік НАН.

У 2015 годзе лаўрэатам Нобелеўскай прэміі па літаратуры стала беларуская пісьменніца **Святлана Алексіевіч**. Нобелеўскі камітэт прысудзіў ёй прэмію за «шматгалосае гучанне прозы і ўвекавечанне пакуты і мужнасці». Медаль і дыплом нобелеўскага лаўрэата Алексіевіч атрымала з рук караля Швецыі Карла XVI Густава 10 снежня на ўрачыстай цырымоніі ў Стакгольме.

ПАД ГРАДУСАМ



## Замаразкі ідуць!

*У апошні тыдзень верасня ў Беларусі захаваецца яснае надвор'е, ападкі малаверагодныя, аднак тэмпература будзе паступова паніжацца, і ў другой палове тыдня ў асобных раёнах краіны чакаюцца начныя замаразкі, паведамляе Белгідрамет.*

У сераду ***27 верасня*** таксама без ападкаў, але стане халаднейшай, тэмпература паветра ўначы апусціцца да +2...+9°С, днём складзе +12...+18°С.

У чацвер ***28 верасня*** істотных ападкаў не чакаецца, аднак пачне паступаць больш халоднае і вільготнае паветра, таму ўначы і раніцай месцамі чакаецца слабы туман. Тэмпература паветра ў ранішнія гадзіны панізіцца да +2...+7°С, у асобных раёнах краіны чакаюцца слабыя замаразкі да 0...-2°С; тэмпература днём не перавысіць +9...+16°С.

У пятніцу ***29 верасня*** пераважна без ападкаў. Ноччу і раніцай месцамі слабы туман. Тэмпература паветра ўначы складзе +1...+7°С, месцамі чакаюцца замаразкі да 0...-3°С, тэмпература днём +9...+16°С.

СКАНДАЛ

## У Камбоджы затрымалі беларусаў, якія хаваліся там ад крымінальнага пераследу

Навіну паведаміла Міністэрства замежных спраў Беларусі на сваёй старонцы ў сацыяльнай сетцы “Фэйсбук”.

“*Здавалася б, дзе лепш схавацца ад правасуддзя, напракудзіўшы ў Мінску, чым у Камбоджы? У каралеўстве цёпла, гасцінна, а галоўнае – далёка. Прычым не толькі ад роднай міліцыі, але нават ад беларускага пасольства. Да найбліжэйшага, у Ханоі, 1300 км*, – гаворыцца ў паведамленні. – *Але ў выніку грамадзяне, якія хаваліся ад крымінальнага пераследу і знаходзяцца ў міжнародным вышуку па каналах Інтэрпола, былі затрыманы і дастаўлены з Камбоджы цераз Тайланд у Расію. Прычым нават без міліцэйскага суправаджэння. Думаеце, сюжэт дэтэктыўнага рамана? Зусім не. Праца беларускай дыпламатыі*”.

“Дыпламатамі беларускага пасольства ў В'етнаме была прадумана і рэалізавана схема па іх дэпартацыі і “бескантактавым” праводжанні ў Беларусь, – *расказалі ў МЗС*. – Дзякуючы пралічаным і прафесійным дзеянням пасольства, добрым кантактам з праваахоўнымі органамі шэрагу краін, ні адлегласць, ні адсутнасць суправаджэння, ні нават спроба ўцёкаў з аэрапорта Бангкока ў Фінляндыю не сталі на шляху правасуддзя. Хутка падазроных чакаюць у Беларусі. Ужо з канвоем”.

ЗАКУЛИСЬЕ

# Евгений Крыжановский открыл собственный продюсерский центр

*Теперь бывший главный режиссер Минского театра сатиры и юмора “Христофор” работает над созданием популярных телепроектов.*

– После того как театр «Христофор» фактически закрылся, я создал свой продюсерский центр, – *рассказал заслуженный артист Беларуси Евгений Крыжановский «Народной Воле»*. – У нас есть киностудия «Юморинка», школа телеведущих «ОтвечайКа», модельное агентство «Стильняжка», театральная студия, школа вокала и прочие направления. На сегодняшний день у нас занимается уже около 100 детей. Наши программы выходят на белорусских телеканалах. У нас снимаются все белорусские звезды – начиная от Александра Солодухи и заканчивая артистами белорусских театров.

*Чем закончился скандал с театром «Христофор»? Напомним, что актеры театра юмора «Христофор» отказались работать с основателем и руководителем коллектива Евгением Крыжановским после его попыток реализовать себя на политическом поприще. Просто поставили его перед фактом: или он возвращается в театр, или уходит заниматься политикой.*

– 25 декабря этого года театру «Христофор» должно было исполниться 30 лет, – *говорит Крыжановский*. – Ничто не предвещало беды, но начались выборы в Палату представителей, я участвовал в избирательной кампании от Либерально-демократической партии Беларуси. У меня был не столичный, а далекий Полоцкий округ. Конечно, во время избирательной кампании я не мог гастролировать, участвовать в спектаклях – времени катастрофически не хватало. Но и оставлять ребят без работы я тоже не мог. Я сделал спектакль, ввел на свои роли артистов, поздравил труппу с успешной премьерой и отправился на выборы. Но получилось, что сам себе выкопал яму…

Почти два месяца меня не было в Минске, я был занят избирательной кампанией, а ребята в это время играли спектакли. И так хорошо все шло, столько аплодисментов было, что в один прекрасный момент они решили: а зачем нам Евгений Анатольевич? Они провели собрание, на котором было принято решение дать от ворот поворот художественному руководителю и создателю театра. Я об этом ничего не знал, продолжал заниматься политикой. Меня на то собрание не позвали… Закончились выборы, я вернулся в Минск. И, проходя мимо Дома Москвы, совершенно случайно узнал, что, оказывается, в этот день там был спектакль. Со мной никто ничего не согласовывал. Я зашел спросить своих коллег, в чем дело. Мне было заявлено, что решением коллектива я больше не работаю в «Христофоре». Для меня это стало огромным потрясением…

Недаром Марк Захаров в одной из своих книг сказал: никогда не поворачивайся спиной к артистам – набросятся и разорвут…

Когда я стал спрашивать ребят, что случилось, почему, то выяснилось, что я, оказывается, страшный тиран, что работал только на себя, что все ток-шоу были только со мной, все интервью – только со мной и так далее. На мой взгляд, это совершенно нормально. И в театре Райкина главный – Райкин, в театре Винокура – Винокур. Но мои коллеги и слышать ничего не хотели, говорили, что я не давал им работать. Наверное, это актерская зависть. Я ж не запрещал никому давать интервью, участвовать в ток-шоу!

Бренд «Христофор» принадлежит мне. Но мы не стали ругаться. Я дал им время пользоваться брендом до Нового года, чтобы они могли что-то наработать, придумать себе новое название и дальше действовать самостоятельно. Мы не подписывали с ними никаких договоров, но на словах такая договоренность есть…

Я слышал, что они хотят отпраздновать 30-летие театра. Меня пока не приглашали. Да и в каком качестве я приду? В качестве выгнанного режиссера?

Мне, конечно, горько и обидно, что мое детище гибнет, но… Вот такая ситуация сложилась… Я сказал, что закрываю «Христофор». Хотят – пусть создают новый. А старого уже нет…

**Марина КОКТЫШ.**

ПЕРСОНА

# Линас Линкявичюс хочет остаться на посту главы МИД

*Поэтому он решил покинуть ряды Социал-демократической партии Литвы, которая вышла из коалиции с Литовским союзом крестьян и «зеленых».*

*«Если меня поддержит президент, премьер, то буду и дальше выполнять эту работу, которая требует усилий, последовательности и, честно говоря, качества»,* – сказал агентству BNS министр и бывший посол Литвы в Беларуси **Линас Линкявичус.**

На днях стало известно, что Совет Литовской социал-демократической партии (ЛСДП) принял решение покинуть правящую коалицию с Литовским союзом крестьян и «зеленых».

*«Такая, как сегодня, партия не нужна. Это показывают результаты выборов, «замороженные» рейтинги, это показывают люди,* – сказал глава партии Г.Палуцкас. – *Что касается коалиции, то она состоит из трех частей: эмоционального окружения, политического содержания и влияния на политические процессы. Друзья, сдуйте пыль со своих роз! Мы вступаем в борьбу за честь и успех».*

По словам Линкявичуса, решение о выходе из правящей коалиции является *«несвоевременным, нелогичным и безответственным». «Оно продиктовано эмоциями, руководство партии переложило ответственность на отделения. На этой волне и принято решение во вред государству»,* – уверен Л.Линкявичюс. Он выразил недоумение по поводу того, что, будучи в оппозиции, Социал-демократическая партия теперь сможет оппонировать программе правительства, которую вместе с «крестьянами» сама и составляла.

Решение социал-демократов выйти из правящей коалиции грозит государству нестабильностью, считает президент Литвы **Даля Грибаускайте**.

*«После решения социал-демократов мы идем к этапу политической нестабильности»,* – прокомментировала решение социал-демократов глава государства. Ее позицию BNS передала пресс-служба президента. По словам Грибаускайте, правительству Саулюса Сквернялиса придется работать в условиях меньшинства. *«Вероятно, что правительство меньшинства будет поддерживать неформальное, пестрое и довольно непостоянное большинство. Ждет серьезный экзамен на ответственность – не только для тех, кто остался у власти, но и для оппозиции»,* – сказала президент.

РЭХА

# Пра дзіўны выпад Мікалая Чаргінца і раман Васіля Якавенкі

Пішу ў рэдакцыю з нагоды дзіўнага выпаду Мікалая Іванавіча Чаргінца, старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі, супраць вядомага пісьменніка і грамадскага дзеяча Васіля Якавенкі. “Народная Воля” ў сваіх публікацыях за 4 жніўня і за 5 верасня гэтага года пісала пра інцыдэнт, які варты асуджэння.

Што ж паслужыла прычынай жорсткага палітычнага абвінавачання на адрас В.Якавенкі, як, зрэшты, і У.Арлова, у тым, што яны *“откровенно прославляют фашизм и требуют назвать в Минске улицу именем Вильгельма Кубе, гауляйтера Беларуси в годы нацистской оккупации”*? Адказ на гэтае пытанне аднаму толькі Чаргінцу вядомы, і прыпісваць гэткі грэх таленавітым пісьменнікам, якія паслядоўна адстойваюць патрыятычныя і нацыянальныя пазіцыі ў літаратуры, мастацтве, у самім жыцці, па-мойму, проста блюзнерства

Між тым прайшло больш за 10 гадоў, як быў напісаны і выйшаў з друку раман-трылогія “Пакутны век”. У 2006 годзе ён быў перавыдадзены ў Мінску, а ў 2014 годзе выйшаў у Санкт-Пецярбургу ў перакладзе на рускую мову пад назвай «Надлом. Кручина вековая». Па гэтым творы праведзена больш за дзясятак публічных канферэнцый у розных бібліятэках і іншых дзяржаўных установах і клубах у Мінску, Санкт-Пецярбургу, Кіеве, у розных раёнах нашай краіны. Твор сабраў даволі значную прэсу, пра яго пісалі такія асобы, як Алег Лойка, Данііл Гранін, Аляксей Рагуля, Вячаслаў Нікіфараў, Лідзія Савік, Яўген Гучок… Раман даўно прыняты, прызнаны і высока ацэнены чытачамі.

Яшчэ раз здзіўляючыся ўчынку Чаргінца, выкажу тут некалькі асабістых думак пра гэты твор В.Якавенкі. Тым больш што я выказваў іх у свой час на чытацкіх канферэнцыях у Доме літаратара і ў Мінскім педагагічным універсітэце.

Твор Васіля Якавенкі «Пакутны век» – рэч прынцыповая і нечаканая фактам свайго ўзнікнення. У ім шмат чаго з таго, што раней было як бы і вядомым, але неакрэсленым альбо прыхаваным да часу. Толькі час гэты ўжо прабіў, і вось перад намі раман. У ім усё, што было пад сацыяльнай коўдрай, зусім аголенае. Сабранае ў адно, яно дужа б’е ў вочы і ўражвае. Мне здаецца, што да такіх твораў у нас пакуль не прывыклі ні чытачы, ні пісьменнікі. Літаратарам можа нават падацца, што раман напісаны «не па правілах».

Я ўважліва сачу за развіццём расійскай літаратуры. Мы ведаем, што расійская літаратура магутная. Але ж на сённяшні дзень, калі яна пачала пераймаць павевы заходняга постмадэрнізму, там мала чаго цікавага, і адзін раман Васіля Якавенкі «Пакутны век» у беларускай літаратуры мае большую вартасць, чым некаторыя кнігі расійскіх аўтараў, якія ў апошнія гады атрымалі літаратурныя ці дзяржаўныя прэміі.

У нашым атамізаваным грамадстве людзі робяцца адзін аднаму чужымі. І дзяржава як бы чужая. Можа, з яе і пачынаецца. І гэта ёсць у творы Якавенкі, дзе паказана, як грамадства раскалолася, страчваючы сваю моц і сілу.

Пісьменнік – чалавек, які ўмее ўлавіць агульнае, што хвалюе нацыю, і праз мастацкія вобразы і характары ставіць вострыя пытанні. У тым ліку – ці патрэбны «анахранізм», якім камусьці ўяўляецца нацыя, у эпоху «глабальнасці»? Але ж нацыя – гэта тое, што аб’ядноўвае і ўмацоўвае народ, што дае магчымасць развіцця. Гэта ўсяляк раскрываецца аўтарам і ненавязліва даводзіцца ўдумліваму чытачу.

Касмапаліты лічаць, што можна жыць без нацыі, і такія жывуць там, дзе асабліва камфортна, «уежна», выгадна. Толькі гэта заканчваецца трагедыяй, калі перад грамадствам паўстаюць выпрабаванні – вайна ці іншыя катаклізмы, у гэтым пераконваешся, чытаючы эпічны твор Васіля Якавенкі.

Аўтар сказаў важкае слова пра паяднанне – падзяленне тых ці іншых груп насельніцтва ў адной дзяржаве. Калі ў вялікім народзе жыве яшчэ і «малы» народ і ён па ўласнай ініцыятыве ці стане душы адасобліваецца ад вялікага ды яшчэ і спрабуе дратаваць ягоную культуру, як у нашым выпадку, выступаючы супраць беларускасці, то, зазначу з усёй пэўнасцю, у складанай або крызіснай гістарычнай сітуацыі яго пазіцыі, дзеянні робяцца вельмі і вельмі небяспечнымі.

А што думаецца, калі чытаеш пра немца – генеральнага камісара Беларусі Вільгельма Кубэ?! Сам па сабе няхай ён, можа, і добры чалавек, іншым разам паважліва ставіцца да тутэйшых, да жыцця пераможаных. Але ж калі такі чалавек становіцца часткай заганнай ці наогул злачыннай сістэмы, ён міжволі садзейнічае наканаванню зла і ўваходзіць у гісторыю як адмоўны персанаж, злачынца.

І апошняе. Спачатку складваецца ўражанне, што аўтар у кнізе адсутнічае, героі дзейнічаюць самі і як ім заўгодна. Але потым разумееш, што гэта не так, што аўтар мае і месца, і сваю пазіцыю, якую трэба шукаць за ўсёй будовай, сістэмай твора. Пазіцыя вабная тым, што ён моцна стаіць на грунце народа і нацыі.

Раман «Надлом» прымушае да роздуму, ён выклікае ў чытача багата неспакойных пачуццяў і думак. А што ж здарылася з Мікалаем Чаргінцом? Перакананы, што ён не чытаў раман-трылогію “Пакутны век” і, пэўна, чуў пра яго ад людзей не дужа сумленных. Але ж у любым выпадку ён не меў ніякіх падстаў абражаць Васіля Якавенку і Уладзіміра Арлова.

**Эрнест ЯЛУГІН, пісьменнік.**

РЕГІЁН

# У Віцебску адкрываюцца курсы па гісторыі горада

*Першыя заняткі адбудуцца ўжо на гэтым тыдні.*

Курсы «Віцебск: рэальная і папулярная гісторыя роднага горада» пачынаюць працу напрыканцы верасня. Арганізатарамі праекта выступілі кафедра гісторыі Беларусі ўніверсітэта імя Машэрава, Віцебская абласная бібліятэка, клуб гістарычнай рэканструкцыі «Варгенторн» і абласны краязнаўчы музей.

Як паведамляюць арганізатары, заняткі будуць праводзіць супрацоўнікі педагагічнага ўніверсітэта, Нацыянальнай акадэміі навук, гісторыкі, музейныя работнікі.

Першыя заняткі пройдуць у чацвер 28 верасня ў 18.00 у Віцебскай бібліятэцы імя Леніна. Сустрэча будзе прысвечана тэме «Марк Шагал і Віцебск». Курсы па гісторыі роднага горада бясплатныя.

**Васіль КОРЗУН.**

ГІСТОРЫЯ БНР: 100 ГОД ТАМУ…

# Паміж школай, тэатрам і палітыкай…

Верасень 1917 года быў адзначаны падзеямі, якія не маглі не паўплываць на далейшы ход станаўлення беларускай дзяржаўнасці. Большасць дзеячаў нашага нацыянальнага адраджэння добра разумела, што марыць пра свабодную і самастойную Беларусь немагчыма, калі не ўзмацніць намаганняў у тых сферах, дзе інтэлігенцыя ўваходзіць у шчыльны кантакт з простым народам. Безумоўна, прыярытэтнымі ў гэтым сэнсе тады лічыліся беларуская школа і беларускі тэатр.

1 верасня 1917 г. адчыніла свае дзверы навучальная ўстанова ў Слуцку, якая ў будучым павінна была стаць паўнавартаснай беларускай гімназіяй. Прыкметна, што гэтая падзея адбылася дакладна ў 300-ю гадавіну з таго часу, як князь Януш Радзівіл падпісаў грамату аб заснаванні ў гэтым старадаўнім беларускім горадзе кальвінісцкай школы. Гэтая школа менш як праз 20 гадоў стала гімназіяй, што яшчэ ў XVII стагоддзі займела неафіцыйную назву “Слуцкіх Афінаў”. Пазней для вучняў гімназіі былі зняты рэлігійныя абмежаванні, з пачатку 1830-х гадоў яна набыла цалкам свецкі статус. Адзін з выкладчыкаў гімназіі – матэматык Кастусь Гадыцкі-Цвірка (1880 – пасля 1931) – належаў да тых асоб, што пасля краху расійскай царскай улады стваралі беларускую школьную адукацыю не толькі на Случчыне, але і ў маштабах усёй Беларусі.

19 верасня 1917 года ў Магілёве сабраўся краёвы з’езд беларускіх настаўнікаў, на якім абмяркоўваліся далейшыя крокі ў развіцці школьніцтва на беларускай мове.

22 верасня вельмі цяжкую страту панёс новы беларускі тэатр, які яшчэ знаходзіўся на самым пачатку свайго развіцця. Памёр Ігнат Буйніцкі (1861–1917), які яшчэ ў 1910 годзе стварыў першую беларускую прафесійную тэатральную трупу, што практычна да пачатку Першай сусветнай вайны займела вялікую папулярнасць у народзе на тэрыторыі ўсёй Беларусі. Смерць Буйніцкага, аднак, ужо не адчувалася так востра: яшчэ раней, напрыканцы красавіка 1917 года, у Мінску пачало сваю дзейнасць Першае таварыства беларускай драмы і камедыі, якое ўзначаліў адзін з колішніх паплечнікаў “бацькі беларускага тэатра” – таленавіты рэжысёр і акцёр Фларыян Ждановіч (1884–1937). Спектаклі, што арганізоўваліся ў будынках Мінскага гарадскога тэатра і “Беларускай хаткі” (на тагачасным Захараўскім завулку), нягледзячы на ўмовы ваеннага часу, збіралі вялікую колькасць гледачоў. Не меншы энтузіязм выклікалі гастрольныя выступленні акцёраў у Асіповічах, Барысаве, Бабруйску, Жлобіне, Магілёве, Койданаве, Оршы, тым жа Слуцку…

Не заціхала ў верасні 1917-га і беларускае палітычнае жыццё. Асноўная інтрыга ў ім, на жаль, была закручана вакол дзейнасці кіраўніцтва Беларускай Сацыялістычнай Грамады (БСГ), якую крытыкавалі і злева, і справа. З аднаго боку, грамадоўцам удалося арганізаваць і правесці ў Маскве два значныя форумы: з’езд беларускіх бежанцаў (17 верасня) і першы з’езд беларускіх палітычных партый (24 верасня), на якім старшынстваваў будучы прэм’ер Беларускай Народнай Рэспублікі Аляксандр Цвікевіч (1883–1937). Народжаны ў Брэсце, Цвікевіч некалі скончыў Санкт-Пецярбургскі ўніверсітэт, стаў аўтарытэтным юрыстам. Падчас Першай сусветнай вайны знаходзіўся ў эвакуацыі і актыўна супрацоўнічаў з Тульскім камітэтам дапамогі ахвярам вайны. Пасля воляй лёсу апынуўся ў Маскве, дзе зрабіўся адным з заснавальнікаў Беларускай Народнай Грамады. Пазней ён браў чынны ўдзел у Першым Усебеларускім з’ездзе, пасля абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі стаў яе дыпламатычным прадстаўніком у Кіеве, Маскве, Берліне. У 1923 годзе быў прызначаны міністрам замежных спраў (у гэтай якасці прысутнічаў на Генуэзскай мірнай канферэнцыі) і кіраўніком урада БНР. Паверыў у абяцанні беларускіх бальшавікоў, адмовіўся ад сваёй пасады і пераехаў з Прагі ў Менск. Працаваў у Інстытуце беларускай культуры. Напісаў капітальную філасофскую працу, у якой грунтоўна раскрытыкаваў тэарэтыкаў і практыкаў “заходнерусізму” (1929, перавыдадзена ў 1993). У 1930 г. быў арыштаваны паводле цалкам сфальсіфікаваных абвінавачанняў, асуджаны і высланы ў расійскую Перм. У 1937 г. Аляксандр Цвікевіч зноў апынуўся за кратамі і стаў чарговай ахвярай бальшавіцкага планавага тэрору. Канчаткова ўлады БССР рэабілітавалі яго толькі ў 1989 годзе.

У верасні ж 1917 года ў шэрагах БСГ адбыўся вялікі раскол: каля 500 яе сяброў (у тым ліку А.Чарвякоў, І.Лагун, У.Скарынка, А.Усціловіч) выйшлі з яе шэрагаў і ўтварылі арыентаваную на бальшавікоў Беларускую сацыял-дэмакратычную партыю. Большасць гэтых людзей пазней падтрымалі стварэнне Беларускай Савецкай Рэспублікі, шмат хто заняў у ёй важныя пасады, але, нягледзячы на гэта, пазней падзялілі лёс Аляксандра Цвікевіча ды іншых стваральнікаў БНР.

За лініяй фронту, у Заходняй Беларусі і на Віленшчыне, група дзеячаў літоўскага адраджэння ў другой палове верасня 1917 г. актывізавала намаганні стварыць правобраз будучага дзяржаўнага кіраўніцтва у выглядзе Літоўскай Тарыбы, збольшага ігнаруючы інтарэсы карэнных насельнікаў гэтай самай тэрыторыі, беларусаў, яўрэяў і палякаў. Віленская беларуская газета “Гоман” у сваім нумары за 28 верасня выказала свой абгрунтаваны пратэст з гэтай нагоды, а 40 прадстаўнікоў беларускіх арганізацый падпісалі адпаведны мемарандум да акупацыйных улад, скіраваны на імя канцлера Германіі.

Гэтая ж праблема абмяркоўвалася на сходзе 203 прадстаўнікоў згаданых арганізацый, што адбыўся 30 верасня ў Вільні. У выніку было прынята рашэнне склікаць там жа адмысловую Беларускую канферэнцыю, дзе выпрацаваць асновы кансалідаванай беларускай палітыкі на тэрыторыях заходняй Меншчыны, Гродзеншчыны, Беласточчыны, Віленшчыны, Аўгустоўскага павета Сувалкаўскай губерні.

**Лявон БАРШЧЭЎСКІ, кандыдат філалагічных навук.**



СЕКРЕТЫ КРАСОТЫ

# Екатерина ДОМАНЬКОВА: «Я люблю сосиски и картошку...»

*Всемирно известная модель, основательница сайта о здоровом образе жизни белоруска Екатерина Доманькова поделилась своими секретами красоты.*

## «С детства не люблю овощи!»

*Вот как выглядит примерный рацион модели и матери двух детей, фигурой которой любуется весь мир.*

«Завтрак: гречневая каша с обжаренным луком и зеленью / глазунья / картофельная оладья / тост с авокадо / овсяная каша / творог с сухофруктами / сырники, – *рассказывает знаменитая модель*. – В последнее время творог появился в моем рационе, хотя более двух лет я совсем не употребляла молочные продукты. Всегда прислушиваюсь к своему организму – если просит что-то невредное, всегда угощаю!

Второй завтрак: фрукт (как правило, слива или банан, потому что люблю больше остальных) / немного орехов.

Обед: суп (очень люблю русские супы: борщ, щи, куриный – и крем-супы, особенно тыквенный) с темным хлебом / зеленый салат / паста. Несколько раз в месяц я могу съесть пиццу. Не вижу в этом ничего плохого, если в этот же прием пищи не включать еще пару «сытных» блюд.

Ужин: белок (курица или рыба) с салатом. Как большой любитель картофеля, нередко отвариваю его на гарнир.

С детства не люблю овощи. Ем зелень каждый день, но в очень небольших количествах. Брокколи, цветная капуста, кабачки – далеко не лучшие мои друзья. Огурцы, помидоры, авокадо, зеленые салаты – с ними видимся гораздо чаще.

Я люблю сосиски. Да, это ужасно. Ограждала себя от этого врага на очень долгое время, но сейчас снова периодически их покупаю (горе мне!).

Люблю картошку в любом виде (конечно, это неиссякаемый источник шуток для моих небелорусских друзей) и ем ее достаточно часто: 2–3 раза в неделю. Пюре – мой любимый гарнир к зеленому микс-салату.

Еще отмечу, что я почти не ем мяса – попросту не люблю. Сахар употребляю только в первой половине дня. Мука (паста, хлеб) на обед с удовольствием – на ужин в случае, если мало ела днем.

Возможно, мои более чем обычные пищевые привычки – следствие того, что я не люблю готовить. Тратить на кухонные дела хотя бы час в день – совсем не моя история. Я предпочитаю поскорее снять фартук: отправить что-то белковое в духовку и максимально быстро управиться с салатом. Конечно, муза иногда приходит, но она еще ни разу не сделала исключения и не заглянула, когда мне было необходимо приготовить детский обед или семейный ужин. В общем, готовлю потому, что надо, а не потому, что хочется.

В поездках никогда не запрещаю себе есть на завтрак сладкую выпечку (представляете, в отпуске я пару раз съела багет со сливочным маслом и нутеллой!). Но, находясь дома, покупаю ее крайне редко.

Если я вернулась в Россию после долгого пребывания в Европе, то с большой вероятностью закажу в ресторане оливье, а не настрогаю миску, которую за три дня не съешь.

Если мне захотелось съесть на обед бургер, то я с удовольствием это сделаю. Но это будет единственное, что я съем».

## «Настоящее чудо для организма – баня!»

*Екатерина Доманькова говорит, что старается придерживаться вот такой системы по уходу за собой.*

«1.Ходить на массаж раз в неделю. На практике получается раза два в месяц. Записываюсь на два часа, чтобы успеть сделать скраб/обертывание и массаж. Никогда не делаю обертывания с целью похудения. Только для детоксификации, увлажнения и поддержания кожи в тонусе.

2.В душе использую щетку с жесткой щетиной и массажными элементами Mio Skincare для зоны бедер, задней и передней поверхностей ног, живота и боков несколько раз в неделю. Это отличный метод для усиления кровообращения и борьба с целлюлитом.

3.На ночь наношу облепиховое масло Weleda или Bio-Oil, люблю крем Thalion Soin Multi-action Fermente (подтягивающий на основе водорослей).

4.Баня! Для меня этот ритуал лучше любого СПА. Я банщик со стажем, не боюсь можжевеловых веников, ледяной купели, обтираний замороженным отваром из трав. После правильной бани кожа светится изнутри! Многие пытаются добиться этого эффекта, покупая дорогие кремы или записываясь на модные процедуры. А самое настоящее чудо для организма – это старая добрая баня.

Кстати, в баню я ходила и когда кормила дочек – молока становилось еще больше.

5.Если необходимо прийти в форму, как, например, было после моих вторых родов – обращаюсь к аппаратным процедурам.

Конечно, все это помогает поддерживать кожу в хорошем состоянии, но самым главным «секретом» является комплексность подхода. Обязательно необходимо заниматься спортом и придерживаться определенной системы питания, исключающей систематическое употребление вредных продуктов».

**Даша ПАВЛОВСКАЯ.**

ДЛЯ ВЯСЁЛАЙ КАМПАНІІ

# Лясная песня

Словы А.Русака.
Музыка Ул.Алоўнікава.

Ой, бярозы ды сосны –
Партызанскія сёстры,
Ой, шумлівы ты,
лес малады!
Толькі сэрцам пачую
Тваю песню лясную
І успомню былыя гады.

Ды успомню пажары,
І варожыя хмары,
І завеі халодных вятроў,
І слату, і нягоды,
І начныя паходы,
І агні партызанскіх
кастроў.

Край любімы мой, родны,
Ты навекі свабодны,
За цябе я на бітву хадзіў,
Каб ніколі, ніколі
Ты не быў у няволі,
Каб прыгожымі кветкамі цвіў.

Адышлі тыя годы,
Адгрымелі паходы,
Толькі пушча
за полем шуміць.
Ой, бярозы ды сосны –
Партызанскія сёстры,
Вас ніколі
ў жыцці не забыць!..

НЕСТАНДАРТ

# Мінчанін прабяжыць 500 кіламетраў за 5 дзён у гонар Скарыны

*Амбасадар школы бегу “IRUN” і праекта “500 год” Тарас Цялькоўскі прабяжыць унікальны для Беларусі ўльтрамарафон. За 5 дзён ён адолее дыстанцыю ў 500 кіламетраў – па 100 у дзень. SkarynaRun прысвечаны 500-годдзю Бібліі Францыска Скарыны.*

Забег пройдзе ў Мінску на трасе веласцежкі з 26 па 30 верасня.

Тарас Цялькоўскі – былы член юніёрскай зборнай па лёгкай атлетыцы, шматразовы пераможца чэмпіянату Беларусі, удзельнік чэмпіянату Еўропы па кросе. Акрамя таго, ён скончыў Біблійную семінарыю ў Лондане. Атлет упэўнены, што з’яўленне даступнай Бібліі на зразумелай мове прывяло да Залатога веку ў гісторыі краіны, а сама Кніга не згубіла актуальнасці і ў наш час. Паводле яго слоў, ён бяжыць, каб вярнуць Біблію ў рукі беларусаў.

Падчас забегу будзе ладзіцца анлайн-трансляцыя. Далучыцца ў любы час і прабегчы частку дыстанцыі з мінчанінам зможа любы жадаючы.

**Вера ВІР.**

ПОДИУМ

# Александра ЧИЧИКОВА: «Девушка на коляске ничем не ограничена»

*В этом году на международном конкурсе «Мисс мира на инвалидной коляске 2017» Беларусь представит минчанка Александра ЧИЧИКОВА. Финал состоится 7 октября в Варшаве. Для участия в престижном конкурсе в Польшу приедут 24 девушки. «Народная Воля» пожелала Александре удачи, а также задала несколько вопросов.*

– У меня сейчас на счету буквально каждая минута, – *говорит участница из Беларуси.* – Подготовка, сбор вещей, компоновка нарядов на каждый день… Одним словом, большая нагрузка.

**– Для участия в конкурсе есть особые критерии?**

– Есть вещи, которые нужно обязательно привезти: национальное и вечернее платья. Конечно, красиво нужно выглядеть каждый день, так как практически постоянно мы будем находиться под вниманием фотографов, журналистов.

С костюмами мне, кстати, очень помогла Светлана Кузнецова (победительница конкурса «Миссис Земной шар – 2017»). А пошивом платьев занималась наша дизайнер Екатерина Тикота.

**– Кроме подготовки к конкурсу у вас еще постоянная работа, учеба…**

– В ноябре начнется сессия, поэтому параллельно я готовлюсь и к ней.

Я учусь в Педагогическом университете имени Максима Танка на психолога и социального педагога.

**– Собираетесь работать по профессии?**

– В дальнейшем хочу помогать людям, которые оказались в непростых ситуациях: им пришлось столкнуться с диагнозами, изменившими жизнь. Человеку приходится привыкать к «новому» себе – нужно учиться жить заново. Получив образование практического психолога, планирую применять полученные знания в этой сфере.

Я хотела стать логопедом, чтобы учить правильному произношению взрослых и детей. Но на медико-экспертной комиссии сказали, что данная профессия не входит в список разрешенных для людей с первой группой инвалидности по заболеваниям опорно-двигательного аппарата.

Я могла выбрать работу бухгалтера, экономиста, лингвиста и психолога. Из этого списка выбрала занятие, которое больше по душе.

**– А как вы узнали о конкурсе «Мисс мира»?**

– Информация случайно попалась на глаза в новостной ленте «Фейсбука». Меня это заинтересовало. Ознакомилась с правилами, решила попробовать.

Для меня этот конкурс – возможность не только выступить за свою страну на международном уровне, но и представить интересы людей, которые передвигаются на инвалидных колясках. Чтобы окружающие понимали: девушка на коляске ничем не ограничена. Она также может полноценно жить, иметь семью, рожать детей, учиться…

Поэтому участие в конкурсе – хороший шанс разрушить стереотипы, которые есть в нашем обществе. Но независимо от результата в Польше я и дальше буду привлекать внимание к проблемам людей с инвалидностью.

Даже если человек на коляске, он может быть красив, силен и тверд духом.

**– Александра, а что произошло с вами?**

– Во время строительства нашего дома я выпала из окна третьего этажа. Ничего сверхинтересного в этом нет – обычная история. Случившееся я не считаю трагедий.

Я не думаю о том, как все сложилась бы, не будь этого падения. Сегодня я получаю удовольствие от жизни: она насыщенная, классная, со мной рядом родные и близкие, которые меня поддерживают.

Более шести месяцев я была прикована к кровати, но, несмотря на это, готовилась к поступлению в университет, много читала, собирала информацию и так далее. Даже если нет возможности выйти на улицу, можно заниматься саморазвитием и в домашних условиях.

Поверьте мне, всегда найдутся люди, которые помогут выйти из дома и даже станут друзьями. Все зависит от того, как ты поставишь себя перед этими людьми: «я самый несчастный, поэтому занимайтесь мной» либо «я ставлю цель и буду к ней идти».

**Роман ВАСЮКОВИЧ.**

КІНАСЕАНС

# «Форэст Гамп» па-беларуску сабраў поўныя залы

*Днямі ў кінатэатры «Москва» адбыліся тры паказы вядомай стужкі ў перакладзе на беларускую мову, кожны з якіх сабраў поўную залу.*

За гэтыя дні кінастужку паглядзелі каля 2000 чалавек.

Нагадаем, што «Форэст Гамп» стаў пятай карцінай праекта “Беларускія ўік-энды”. Раней на беларускай мове ўжо адбыліся паказы мультфільмаў «Таямніца Келз» і «Маленькі Прынц», а таксама фільмаў «Кніга Ілая» і «Пакуль ногі носяць».

Паводле традыцыі, арганізатары выбіралі фільм для перакладу і паказу, імкнучыся да таго, каб карціна не проста была цікавай для аўдыторыі і мела поспех сярод гледачоў, але і несла ў сабе важны з пункту гледжання агульначалавечых каштоўнасцяў пасыл. Гісторыя Форэста Гампа – прыклад таго, што нават самы непадыходзячы на ролю героя чалавек можа не толькі заслужыць свой уласны хэпі-энд, але і змяніць да лепшага жыццё многіх іншых.

*«Апошнім часам беларуская мова ператвараецца з трэнду ў паўнапраўную частку нашага паўсядзённага жыцця,* – заўважае Вячаслаў Смірноў, начальнік аддзела карпаратыўных камунікацый velcom. – *Тое, што яна пачынае гучаць з вялікіх экранаў, – гістарычная падзея. Бо культура займае асаблівае месца ў жыцці кожнай нацыі: яна не толькі забаўляе або навучае, але і аб’ядноўвае грамадства вакол тых ці іншых значных ідэй і каштоўнасцяў. Вялікі гонар для кампаніі velcom не проста быць сведкамі падзей, якія адбываюцца, але і актыўна ўдзельнічаць у іх».*

Арганізатары плануюць працягваць сумесную працу над праектам «Беларускія ўік-энды» і далей: водгукі гледачоў і распраданыя квіткі красамоўна сведчаць пра тое, што жыхары Беларусі рады глядзець сусветнае кіно на роднай мове.

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

## Віктар ШАРШУКОЎ:
# «Сабака брэша – караван ідзе»

*Галоўны трэнер мужчынскай зборнай Беларусі па цяжкай атлетыцы **Віктар Шаршукоў** распавёў “Народнай Волі” пра закулісныя гульні і пра тое, ці паедзе нацыянальная каманда на чэмпіянат свету, які пройдзе напрыканцы лістапада – на пачатку снежня ў ЗША.*

Не так даўно ў СМІ з’явілася “сенсацыйная” навіна: *“зборная Беларусі і яшчэ 8 каманд (у тым ліку Кітая і Расіі), верагодна, будуць адхілены ад удзелу ў чэмпіянаце свету 2017 года”*. Прычына – шматразовыя допінгавыя парушэнні на Алімпійскіх гульнях.

Паведамлялася, што створаная спецыяльная камісія для ўнясення прапановы ў Выканаўчы камітэт Міжнароднай федэрацыі цяжкай атлетыкі наконт таго, як змагацца з камандамі дзевяці краін, якія мелі ад трох да дзесяці станоўчых вынікаў пры паўторным тэсціраванні на допінг у Пекіне ў 2008-м і ў Лондане ў 2012-м, збярэцца ў выхадныя ў Будапешце.

Справаздача камісіі, маўляў, будзе прадстаўлена на пасяджэнні Выканаўчага камітэта Міжнароднай федэрацыі цяжкай атлетыкі ў Бухарэсце 30 верасня і 1 кастрычніка.

– Паведамленні аб тым, што нашу зборную могуць дыскваліфікаваць, інакш як інфармацыйным укідам назваць і не магу, – кажа Віктар Яўгенавіч. – Наколькі мне вядома, спачатку гэтыя неправераныя звесткі з’явіліся ў расійскіх інтэрнэт-выданнях, а затым і нашы падхапілі “скандал”. Я разумею, адкуль ногі растуць, але бяздоказна не хачу называць канкрэтныя прозвішчы і ўстановы. Скажу толькі, што тут больш пад расійскіх спартсменам яму капалі, а мы ў гэтай сітуацыі пайшлі “прычэпам”.

**– Размова ішла не толькі пра расіян, а пра дзевяць зборных, да якіх быццам бы маглі ўжыць санкцыі…**

– На сённяшні дзень ні ў адной з вышэйзгаданых каманд няма ніякіх дакументаў, што да нас маюцца прэтэнзіі. Больш за тое – ёсць ліст Сусветнай федэрацыі цяжкай атлетыкі, што зборная Беларусі можа спакойна рыхтавацца да чэмпіянату свету. І прэзідэнт Міжнароднага алімпійскага камітэта Томас Бах заявіў, што ніхто не збіраецца дыскваліфікаваць цяжкую атлетыку. Таму вэрхал узнялі, і на гэтым усё скончылася.

Але, як кажуць, сабака брэша – караван ідзе. Зараз мы па сваім плане рыхтуемся да чэмпіянату свету. Разлічваем на добрае агульнакаманднае месца.

**– Вы ўжо вызначыліся з тымі, хто паедзе на чэмпіянат?**

– На першынстве не будуць разыгрываць алімпійскія ліцэнзіі, а таму стаўка – на моладзь. Вядучыя спартсмены адпачнуць. Медальных задач на першынство мы не ставім. Галоўнае для нас – падрыхтоўка да Алімпіяды-2020 у Токіа.

**– Сярэбраны прызёр Гульняў-2016 Валерый Стральцоў таксама не будзе браць удзел?**

– Не, бо толькі-толькі залячыў пасляалімпійскія траўмы. Зрабілі МРТ – быццам бы ўсё нармальна. Пакуль трэніруецца, уваходзіць у форму пасля курса рэабілітацыі. А змагацца за алімпійскую ліцэнзію пачне ўжо ў наступным годзе.

**– Дарэчы, прызёр Алімпіяды да гэтага часу не вырашыў сваё кватэрнае пытанне?**

– Ведаю, што праблема ў хуткім часе павінна вырашыцца.

**– Алімпійскі чэмпіён 2008 года Андрэй Арамнаў не так даўно заявіў, што таксама мае планы вярнуцца ў зборную. Ёсць такая верагоднасць?**

– Я з Андрэем пастаянна падтрымліваю сувязь, ён мне тэлефануе. І не бачу ніякіх перашкод для яго вяртання ў вялікі спорт. Арамнаў выйграў першынство Мінскай вобласці. Калі пакажа добрыя вынікі на рэспубліканскіх спаборніцтвах, то чаму б і не? Але, шчыра кажучы, сёння ён не ў самай лепшай форме. Я прапанаваў Андрэю выступіць на чэмпіянаце Беларусі, але ён і сам кажа, што пакуль не гатовы да гэтага.

**– Калі вярнуцца да скандалу вакол магчымай дыскваліфікацыі зборнай… Дзеля чаго гэта было зроблена?**

– Закулісныя гульні ў спорце сталі нормай. Уяўляеце, я сваю сумку з экіпіроўкай перад вылетам на Алімпіяду-2016 сабраў толькі за некалькі гадзін да вылету, таму што да апошняга не ведалі, ці паляцім увогуле. Вось і сёння да нас у чарговы раз наведаліся прадстаўнікі Сусветнага антыдопінгавага агенцтва. Яны нас “вельмі любяць”, а таму ў госці наведваюцца рэгулярна. І мы ўжо прызвычаіліся.

**– У камандзе ўзмоцнены допінгавы кантроль?**

– Кантроль супержорсткі!

**– У такім выпадку ёсць надзея, што больш пра допінгавыя скандалы з удзелам беларускіх атлетаў мы не пачуем…**

**Алесь СІВЫ.**




ЧАСТНАЯ ЖИЗНЬ

# Виктория Азаренко приучает сына к теннису



*На днях известная теннисистка Виктория Азаренко выложила на своей странице в «Инстаграме» фотографию с сыном. «У Лео есть своя ракетка. Лео ее уже попробовал на вкус – ему понравилось», – подписала спортсменка снимок.*

Стоит заметить, что если раньше фотографии с сыном в социальных сетях выкладывала только сама Виктория, то сейчас это стал делать и отец ребенка Билли Маккиг.

*«Билли всегда вел скромный образ жизни и не выставлял свою жизнь напоказ в этих наших «твиттерах» и «инстаграмах»*, – заметили блогеры by.tribuna.com. – *Но теперь все резко изменилось. Маккиг открыл доступ к своей странице в «Фэйсбуке». На аватарке Билли с сыном, а обложкой для странички послужила фотка, на которой папа держит Лео на руках и смотрит на уимблдонский корт».*

В «Инстаграме» Билли Маккига выложены и другие фотографии с сыном. Одна из последних собрала немало комментариев, один из которых такой: *«Милые фотографии! Надеюсь, что вы и мама Лео сможете в конечном итоге найти взаимопонимание, которое во главу угла ставит интересы Лео! Жесткие компромиссы должны быть сделаны обеими сторонами, но в конце концов все будет хорошо для вас двоих и, самое главное, для Лео».*

Первое заседание по делу об опеке над Лео Азаренко-Маккиг назначено на 12 октября. Как уже сообщала «Народная Воля», суд города Лос-Анджелеса (штат Калифорния) запретил Виктории Азаренко вывозить ребенка за пределы города до окончания судебных слушаний. Бывшая пара вроде как договорилась о равноправном соглашении – 50/50. Но спор об опеке только начался. Виктория Азаренко обратилась к лучшим адвокатам в области семейного права.

**Полина ПЛАТОНОВА.**




ПОЛЕЗНЫЕ СОВЕТЫ

## Сушим яблоки

Для сушки наиболее пригодны яблоки кисло-сладкого нетерпкого вкуса, с неводянистой мякотью, белого или светло-желтого цвета (Антоновка обыкновенная, Коричное, Папировка, Пепин шафранный и др.). Сладкие яблоки в сушеном виде плохо развариваются и безвкусны.

Яблоки сортируют по размеру, удаляют больные, моют, вырезают сердцевину и загнившие места. Мелкие плоды разрезают на половинки или четыре части или сушат целиком. Средние и крупные яблоки нарезают дольками или кружочками толщиной 5–7 сантиметров. Можно очистить кожицу.

Чтобы яблокии не темнели, рекомендуется выдержать нарезанные кусочки, дольки в 1–1,5%-ном растворе поваренной соли 2–3 минуты. Затем их подвяливают на воздухе (на солнце) или в сушилке, духовом шкафу, русской печи.

Сушку яблок следует проводить при 80–85°С. В конце сушки, когда яблоки потеряют 2/3 влаги, температуру снижают до 50–60°С, чтобы дольки не подгорели. Продолжительность сушки 4–6 часов. Высушенные яблоки охлаждают на ситах.

Если специального сушильного шкафа нет, сушку можно провести либо комбинированным способом (на солнце и в печке), либо в печке, духовке, на плите. Сушка в духовке или русской печи дает хороший выход сухофруктов – до 30–35 кг на 100 кг свежего сырья. Надо помнить, что при таком способе сушки нельзя использовать металлические противни.

Чтобы избежать запаривания продукции, дверцу печи или духовки не следует закрывать плотно – по мере сушки ее надо постепенно закрывать. Важно следить за температурой, так как сушка проводится последовательно в три фазы: первая – 45–50°С (подвяливание); вторая – 70°С (удаление основной массы воды); третья – 80°С (доведение влажности продукта до 20–25% и стерилизация его). Воздух в конце сушки не должен быть слишком сухим, его относительная влажность должна быть несколько выше, чем в начальный период сушки.

АЗБУКА ЦВЕТОВОДА

## Гладиолусы отцвели…

***Когда надо убирать гладиолусы и как правильно хранить клубнелуковицы?***

**Регина СТЕПАНЮК.**

*г.Калинковичи.*

Гладиолусы выкапывают в конце сентября – начале октября, до наступления сильных заморозков. Необходимость выкопки растений на зиму обусловлена тем, что клубнелуковицы погибают при промерзании почвы. Ранние сорта выкапывают раньше, чем поздние. Сразу после выкопки обрезают стебли над новой (замещающей) клубнелуковицей и большие корни. Выкопанные клубнелуковицы подсушивают в сухом (с температурой 25–30°С), хорошо проветриваемом помещении в течение 10–15 дней или сушат подогретым до 35–40°С воздухом 4–5 дней.

В целом сушат клубнелуковицы 4–5 недель. После просушки клубнелуковицы очищают от земли, отделяют корни и остатки старых клубнелуковиц от новых и от детки (клубнепочки). Затем клубнелуковицы вновь сушат еще 20–30 дней (до середины ноября) при 20–22°С, сортируют, поврежденные отделяют от здоровых и уничтожают, предназначенные для хранения складывают в ящики или мешочки из марли и переносят в место хранения.

Хранят клубнелуковицы в сухом (влажность воздуха не должна превышать 60–70%) и прохладном (4–8°С) помещении. Ежемесячно их нужно просматривать и удалять больные экземпляры.

За период хранения может погибнуть до 40% посадочного материала гладиолусов. Основная причина – болезни клубнелуковиц, вызываемые различными патогенными микроорганизмами.

Защитить клубнелуковицы гладиолусов от болезней в период хранения можно, избегая перепада температуры и повышенной влажности. Необходимы также постоянный осмотр и отбраковка пораженных экземпляров клубнелуковиц. Использовать против болезней химические препараты в домашних условиях не рекомендуется. При сильном развитии пенициллезной и бактериальной гнили пораженный материал можно подержать 10–15 минут в растворе марганцовокислого калия и затем тщательно просушить.

Во избежание развития болезней гладиолусы обычно не выращивают на одном месте чаще, чем один раз в 5–6 лет.



КУЛИНАРНЫЕ РЕЦЕПТЫ

## Томатный соус

Его готовят из протертых помидоров. Массу уваривают в два раза, добавляя по рецептуре сахар и соль. Необходимые пряности кладут размолотыми или целыми в марлевом мешочке, помещая в кипящую массу. После уваривания его вынимают и в массу добавляют уксусную кислоту. Горячий соус разливают в нагретые банки или бутылки и прогревают, выдерживая в кипящей воде: полулитровые – 3–5, литровые – 8–9 минут.

На 1 кг соуса расходуется: протертой томатной массы – 2,3 кг, сахара – 140 г, поваренной соли – 25 г, уксусной эссенции – 7,5 г, растертого чеснока – два-три зубка, черного горького перца и гвоздики – 3–4 шт. и 2–3 г молотой корицы.

## Томатный сок

Нужны хорошо вызревшие помидоры. После удаления мятых, очистки от плодоножек и мойки плоды режут, кладут в эмалированную кастрюлю и, помешивая, кипятят 5–10 минут. Горячими протирают через дуршлаг или мелкое сито. Отверстия в сите должны быть такого размера, чтобы задерживались кожица и семена. Сок снова нагревают. При желании на 1 л сока добавляют 10 г столовой соли и одну-две таблетки аскорбиновой кислоты (по 0,5 г) в качестве антиокислителя. При слабом кипении выдерживают банки: полулитровые – 3–5 мин., литровые – 8–9, трехлитровые – 12–15 минут. Можно получать сок на специальной машинке или пользоваться конусной насадкой №5 к мясорубке. Расход помидоров на 1 л сока – 1,1–1,2 килограмма.

# «Шахцёр» вярнуў лідарства

*Прайшлі матчы 23-га тура чэмпіянату Беларусі па футболе.*

Вось іх вынікі: “Гомель” – “Днепр” (Магілёў) – 0:0, “Дынама” (Брэст) – “Дынама” (Мінск) – 1:0, БАТЭ (Барысаў) – “Слуцк” – 6:0, “Шахцёр” (Салігорск) – “Іслач” (Мінскі раён) – 4:0, “Славія” (Мазыр) – “Крумкачы” (Мінск) – 3:1, “Мінск” – “Віцебск” – 0:0, “Гарадзея” – “Нафтан” (Наваполацк) – 2:0, “Нёман” (Гродна) – “Тарпеда-БелАЗ” (Жодзіна) – 0:1.

### Турнірнае становішча

| Каманды | Гульні | Выйгрышы | Нічыі | Паражэнні | Мячы | Ачкі |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Шахцёр | 23 | 16 | 5 | 2 | 39–13 | 53 |
| Дынама (Мн) | 23 | 17 | 1 | 5 | 33–12 | 52 |
| БАТЭ | 23 | 16 | 3 | 4 | 44–11 | 51 |
| Тарпеда-БелАЗ | 23 | 10 | 8 | 5 | 32–18 | 38 |
| Слуцк | 23 | 10 | 7 | 6 | 23–23 | 37 |
| Віцебск | 23 | 10 | 6 | 7 | 26–23 | 36 |
| Нёман | 23 | 10 | 6 | 7 | 30–23 | 36 |
| Дынама (Бр) | 23 | 9 | 7 | 7 | 33–23 | 34 |
| Гарадзея | 23 | 7 | 10 | 6 | 26–25 | 31 |
| Гомель | 23 | 6 | 7 | 10 | 18–20 | 25 |
| Днепр | 22 | 5 | 6 | 11 | 19–34 | 21 |
| Крумкачы | 23 | 4 | 8 | 11 | 21–36 | 20 |
| Славія | 23 | 4 | 7 | 12 | 21–37 | 19 |
| Мінск | 23 | 3 | 10 | 10 | 13–29 | 19 |
| Іслач | 22 | 4 | 3 | 15 | 14–37 | 8 |
| Нафтан | 23 | 3 | 4 | 16 | 11–39 | 8 |

**P.S.** *У табліцы не ўлічаны матч тура “Іслач” (Мінскі раён) – БАТЭ (Барысаў), які адбыўся ўчора вечарам.*

## Узаемадапамога

Дапамагу шматдзетным, маламаёмным абуткам, адзеннем і іншым чынам. **Тэл. 8-029-191-11-87 (Velcom).**

**Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а. Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71. Рэкламны аддзел (017) 328-66-09.**

nvonlineinfo@gmail.com http://www.nv-online.info

**Падпісныя індэксы:**

**63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,**
**632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.**

**Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ**




Паколькі ў рэдакцыі няма магчымасці рэцэнзаваць і вяртаць нявыкарыстаныя матэрыялы, яна пакідае права ўступаць у перапіску за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 25.09.2017 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 24 015 экз. Заказ № 3277.